NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.

# Ніва

№ 12 (56) БЕЛАСТОК, 24 САКАВІКА 1957 г. ГОД II

## Артысты Поўднёвага Вострава

Аб тым, што гурток БГ-КТ у Поўднёвым Вострave (Сакольскі павет) пачаў падрыхтоўваць п'есу беларускага пісьменніка Янкі Купалы — «Паўлінку» многа гутарыла не толькі моладзь, але і старэйшыя. А гэта таму, што ў гісторыі Поўднёвага Вострава і гісторыі ўсёй гэтай аколіцы толькі ў 1940 г. жыхары бачылі і чулі са сцэны пастаноўкі на беларускай мове. Апрача гэтых, усе пастаноўкі адбываліся тут на польскай мове.

Ніхто нават не ведаў, што з такім самым поспехам можна ставіць на сцэне п'есы на беларускай мове, як там гавораць, на простай мове. Аднак і самыя артысты і жыхары Поўднёвага Вострава ўдзень пастаноўкі пераканаліся, што можна. Маладыя артысты — самадзейнікі лічылі, што прыдзе мала людзей, што іх агромная падрыхтовачная праца не будзе карыстацца поспехам, таму што нават у многіх беларусаў у выніку вяковага праследвання выпрацаваўся камплекс ніжшасці да сябе і да ўсяго таго, што беларускае.

Але аказалася, што зацікаўленнасць да беларускай п'есы была вельмі вялікая. Прыйшлі пабачыць малодшыя і старэйшыя не толькі Поўднёвага Вострава, але і суседніх вёсак. Вялікая зала школы была перапоўнена. Усе з нецярплівасцю чакалі калі адкрыецца занавеса сцэны. І вось яна адкрываецца.

Маладзенькая, прыгожая беларуская дзяўчына — Таня Хмялеўская пяе песню, сумуе па сваім «нарачоным» Якімку. Палілася па зале беларуская песня, пачулася беларускае літаратурнае слова. Раздаюцца воплескі, калі Валодзя Жамойда, выконваючы ролю Якімкі Сарокі горача цалуе Паўлінку і дамаўляецца што ноччу праз акно ўкрадзе яе ад бацькоў, бо бацькі не хочуць аддаць Паўлінку за муж за яго.

Захапляюцца гледачы таленавітасцю сваіх аднавяскоўцаў. З прыемнасцю смяюцца калі Міша Жамойда ў ролі бацькі Паўлінкі — Сцяпана Крыніцкага гладзіць рукою свае вусы і чорную бараду, а пасля па п'яному пяе песні, калі Таня Путко пераапрануўшыся за старую кабету ў ролі маці Паўлінкі абараняе дачку ад напалак роднага бацькі.

Як на вясковыя ўмовы — добра, вельмі добра, іграюць артысты, моцна захапляюць гледачоў.

Новая хваля смеху сыплецца ва ўсе бакі, калі Толік Хмялеўскі ў ролі Пранціса — сваяка Крыніцкіх, з пляшкай у руках дырыжуе спяваючай на сцэне моладзі, а апрача таго часценька прамочвае гарэлкаю горла, калі яго жонка Агата адбірае ад яго бутэльку і моцна лае (ролю Агаты выконвала Таня Жамойда).

Ёсць з чаго смяяцца, таму што камедыя «Паўлінка» вельмі смешная і цікавая. Яна паказвае жыццё вёскі, з якім усе гледачы вельмі добра азнаёмлены. Яшчэ і цяпер у нас ёсць вёскі «шляхецкія», ёсць і такія як Адольф Быкоўскі — людзі, якія пагарджаюць народнай культурай «мужыцкімі абычаямі», якія лічаць сябе лепшымі і разумнейшымі ад другіх. І трэба сказаць, што для другога Валодзі Жамойды, выступаючага ў ролі Быкоўскага добра ўдалося справіцца з сваёй роляй.

Ёсць за што хваліць артыстаў з Поўднёвага Вострава. Ёсць за што хваліць рэжысёра і арганізатара Міколу Кукліка. Добры зрабілі пачатак. Яны нават не ўяўляюць сабе, якую важную справу робяць. Яны ж знаёмяць з беларускай культурай, як беларускае так і польскае насельніцтва Беласточчыны.

Справы беларускай культуры моцна ляжаць на сэрцы не толькі свядомых беларусаў але і палякаў. Аб гэтым напэўна ўсе артысты пераканаліся, тады калі выступалі яны з «Паўлінкай» у вёсцы Крушыняны. Там ім аказала вялікую дапамогу, вядома, беларускае насельніцтва, а асабліва настаўнікі і працаўнікі Грамадскай рады, але найбольшую — польскае насельніцтва. Вось Адольф Патэльскі ўвесь дзень працаваў над тым, каб зрабіць сцэну ў школе для артыстаў Поўднёвага Вострава.

На пастаноўку прыйшло многа палякаў, якія захапляліся прыгожасцю беларускай камедыі і якія вельмі добра адзываліся аб беларускай моладзі. Францішак Патэльскі і Уладыслаў Патэльскі запрасілі да сябе на начлег усіх артыстаў. Падчас забавы вельмі дружна гулялі палякі з беларусамі. Госці з Поўднёвага Вострава танцавалі «Лявоніху», што вельмі спадабалася ўсім прысутным.

Як бачым, маем усе магчымасці да таго, каб арганізаваць артыстычныя гурткі. Трэба толькі ахвоты, трэба толькі далажыць працы. Моладзь Вострава дала добры пачатак у Сакольскім павеце. Не толькі варта, але і трэба моладзі Сакольшчыны, а нават усёй беларускай моладзі Беласточчыны браць прыклад з ініцыятыўнай моладзі Поўднёвага Вострава.

М. Х.



*Спектакль «Несцерка» Насця — заслужаная артыстка БССР — Канапелька.*

**Арганізуйце гурткі мастацкай самадзейнасці**

**За парадамі звяртайцеся ў Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, вул. Маніфесту Ліпцовага 25.**

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

